# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 12 (838) ГОД XVII БЕЛАСТОК 19 САКАВІКА 1972 г. ЦАНА 60 гр.


У гэты ўрачысты дзень, калі наваколле поўніцца сакавітымі пахамі прадвесня, усе мы ідзем выканаць наш грамадзянскі абавязак перад Радзімай, ідзем задакументаваць сваім выбарчым лістком нашае самае шчырае жаданне ўдзельнічаць разам з

## 19 САКАВІКА! УСЕ ДА ВЫБАРЧЫХ УРНАЎ!

усім польскім народам у велічнай справе развіцця і ўмацавання нашага сацыялістычнага краю.

Нікога з нас — і з адлеглых сёлаў і з мнагалюдных гарадоў — не забракне пры выбарчых урнах. Ідзем да іх светлаю раніцай, каб выказаць нашае поўнае адабрэнне праграме сацыялістычнага будаўніцтва, прынятай VI з'ездам Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Праграма партыі стала праграмай усяго народа. Яна адкрыла перад нашым краем новую старонку на шляху далейшага ўсебаковага развіцця і ўдасканальвання грамадскага жыцця, гаспадаркі, асветы і культуры.

Прагаласуем мы за непарушную еднасць і брацкую дружбу нашага краю з вялікай Краінай Саветаў, сацыялістычнымі дзяржавамі і іншымі міралюбівымі народамі свету. Мір на зямлі і адзінства сацыялістычных краін з'яўляецца самай пэўнай гарантыяй нашага спакойнага і шчаслівага заўтра.

Аддаем нашыя галасы за кандыдатаў Фронту адзінства народа, на адзіны выбарчы спісак, каб гэтым прадэманстраваць нашую еднасць з усімі грамадзянамі сацыялістычнай Польшчы. Выбіраем самых лепшых дачок і сыноў нашай Айчыны. І мы ўпэўнены, што Сейм VI скліканія будзе аднародны і нястомны ў здзяйсненні палітычнай лініі, намечанай партыяй і адобранай народам. Ён будзе прымаць мудрыя законы, пранікнёна і патрабавальна кантраліраваць палітыку нашага ўрада.

Нашы рукі, што ўкладаюць выбарчы лісток у урну, гатовы да працавітага, гаспадарлівага дзеяння на карысць усяго польскага грамадства, усёй нашай Радзімы. Нашы сэрцы прасякнуты аптымізмам за будучыню нашага краю, за светлы будучы дзень кожнага з нас.

Мы не падвядзем!

19 сакавіка — усе да выбарчых урнаў!




### ГУТАРКА З КАНДЫДАТАМ У ПАСЛЫ СЕЙМА, І САКРАТАРОМ ВК ПАРП У БЕЛАСТОКУ ЗДЗІСЛАВАМ КУРОЎСКІМ

*— VI з'езд ПАРП сфармуліраваў праграму далейшага будаўніцтва сацыялізму ў нашай краіне. Гэта праграма з'явілася выбарчай платформай Фронту адзінства народу. Якія ў святле гэтай праграмы стаяць заданні перад Беласточчынай?*

— На сёння — інтэнсіўная праца над распрацоўкай пастаноў з'езду ў катэгорыях паасобных асяроддзяў. Пастановы тэтыя перакладаем на мову практычных заданняў, мабілізуем грамадства да творчага дзеяння.

Вялікае значэнне прыдаем ажыццяўленню прапаноў, унесеных перад з'ездам. Хочам усе іх здзейсніць.

Асаблівую ўвагу звяртаем на працу і жыллёвае пытанне. Людзі павінны мець працу і кватэру. Праграма жыллёвага будаўніцтва прадбачвае ўзрост на 19% у параўнанні з мінулай пяцігодкай. Стараемся, каб узрост быў большы, і маем надзею, што даб'емся гэтага. Жыллёвае будаўніцтва — надзвычай важнае пытанне. Развіваць яго павінны не толькі кааператывы і рады нарадовыя, але і прадпрыемствы. Вырашаць гэтае пытанне трэба таксама шляхам індывідуальнага будаўніцтва, рамонтаў і адаптацыяў.

Хочам разгарнуць грамадскую ініцыятыўнасць. Ад яе многа залежыць. Важную, напрыклад, ролю могуць адыграць конкурсы «Жыхары свайму гораду» і «Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная».

*— Пастановы VI з'езду, між іншым, гавораць, што трэба павысіць ролю рэгіянальных планаў. Якія намеры ў гэтай галіне маюць ваяводскія ўлады?*

— Не выпрацавалі мы дагэтуль у Польшчы доўгагадовых, перспектыўных планаў. Хочам гэта адрабіць. Урад паклікаў калектыў экспертаў для выпрацавання прасторавага плана, з якога будзе зыходзіць перспектыўны план. Маю прыемнасць прымаць удзел у працах гэтага калектыву. У бліжэйшай будучыні план такі будзе. З гэтых самых прадпасылак зыходзяць і пачынанні ў нашым ваяводстве. Створана камісія спецыялістаў, якая апрацуе падобны план для Беласточчыны.

*— Людзі любяць заглядаць у будучыню. Якімі тады з'яўляюцца галоўныя напрамкі развіцця Беласточчыны?*

— Першы. Асноўнага значэння: значнае капіталаўкладанне ў развіццё сельскай гаспадаркі. Хочам і мусім зрабіць з гэтай галіны гаспадаркі важны напрамак развіцця і грамадска-гаспадарчай актывізацыі ваяводства. Асаблівую ўвагу звернем на добрае выкарыстанне зямлі, развіццё жывёлагадоўлі, механізацыі і будаўніцтва.

Другі напрамак. Развіццё апрацоўчай прамысловасці: сельскагаспадарча-харчовай, тэкстыльнай, дрэваапрацоўчай. Хочам таксама на базе тэкстыльнай прамысловасці будаваць у будучыні

Працяг на стар. 4



*І сакратар ВК ПАРП у Беластоку Здзіслаў Куроўскі на сустрэчы з тэкстыльшчыкамі Фастаўскага камбіната.* *Фота ЦАФ — Р. Сянько.*



### Гайнаўская мэблевая

Гайнаўская мэблевая фабрыка, якая ў мінулым годзе пачала сваю дзейнасць, каштавала 66 млн. зл. Гэта было найбольшае прамысловае капіталаўкладанне ў гэтым раёне. Абсталяваны тут многія прататыпныя машыны, якіх дагэтуль не было ў Польшчы. На фабрыцы працуюць 154 станкі, у тым ліку 38 замежных. Шмат таксама тут прылад дапаможных: канвееры, транспарцёры і інш. Можна смела сказаць, што знайшло тут прымяненне апошняе слова тэхнікі. На здымку: на Гайнаўскай мэблевай фабрыцы прыменена сучасная вентыляцыйная і кліматызацыйная сістэма. Цэнтральная сістэма збірае кожную пылінку пры машынах і пераносіць у зборны пункт, які знаходзіцца за фабрыкай. Вось пункт збору занечышчэнняў, узнікшых у часе прадукцыі.

*Фота Цаф — Р. Сянько*




■ 27 лютага ў Гарадку адбыўся конкурс школьнікаў на беларускую песню, арганізаваны інспектаратам асветы прэзідыума ПРН у Беластоку. Прыняло ў ім удзел 33 асобы з сямі пачатковых школ. Найлепш спявалі вучні з Гарадка. Яны занялі першыя месцы ў катэгорыях сола, у дуэце, трыо і квартэце. Аб конкурсе змесцім шырэйшую інфармацыю ў наступным нумары «Нівы».

■ 28 лютага адбылося спатканне кіраўніцтва ГП БГКТ з прадстаўнікамі ваяводскага праўлення «Рух» (з дырэктарам да спраў культурнай дзейнасці Аліцыяй Мікульскай і кіраўніком гэтага аддзела Рышардам Мелькэ). Былі абмеркаваны далейшыя формы супрацоўніцтва «Руху» і БГКТ у 1972 годзе.

■ Сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП Яўгені Златажынскі 29 лютага прыняў сакратара ГП Янку Зенюка, які праінфармаваў яго аб актуальных праблемах БГКТ.

■ 3 сакавіка прэзідыум ГП пазнаёміўся з зацверджаным Міністэрствам унутраных спраў фінансавым бюджэтам БГКТ на 1972 год.

■ Вельмі цікава праходзіў (5.III.) семінар літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа», якое існуе пры ГП БГКТ. Старшыня літаб'яднання Аляксандр Баршчэўскі выступіў з дакладам аб жыцці і творчай дзейнасці вялікага беларускага пісьменніка Янкі Купалы. Пасля дакладчык прадставіў прысутным план святкаванняў 90-ых гадавін з дня нараджэння паэтаў-класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Затым адбылася дыскусія над творамі, змешчанымі ў «Альманаху» № 2. З уступным словам да дыскусіі выступіў паэт Янка Чыквін. Наступным пунктам парадку семінара было зацвярджэнне плана працы літаб'яднання на 1972 год, які ад імя праўлення прадставіла Зося Стаськевіч. Далей сакратар ГП Янка Зенюк праінфармаваў прысутных аб выдавецкіх магчымасцях Галоўнага праўлення.

■ 5 сакавіка адбылася ў доме культуры ў Ячне справаздачна - выбарная канферэнцыя дуброўскага аддзела. (Аб ёй чытайце справаздачу таксама ў наступным нумары «Нівы»).

(мх)

## Школа ў Залуках

Вёска Залукі (Беластоцкі павет) налічвае каля 70 дамоў і столькі ж гаспадарак. Сярод дамоў асабліва вылучаецца новы мураваны будынак у канцы вёскі. Знаходзіцца ў ім 8-класная школа. Пабудавана яна пры дапамозе саміх жыхароў Залук у 1964 годзе. Зараз школьнікі вучацца тут у прасторных і светлых класах. Школа налічвае 139 вучняў. Вучыць іх 7 настаўнікаў, у тым ліку 6 з дадатковымі кваліфікацыямі.


Школа ў Залуках.


Настаўніца Галіна Буцько і Лілія Чэмель правяраюць чарговасць запісаў тэмаў урокаў у класным дзённіку.



Ля школьнай насценгазеты.

Усе вучні залукаўскай школы з'яўляюцца сапраўднымі сябрамі птушак і лясных звяркоў. Для птушак зрабілі яны 50 кармушак, у якія сыплюць зерне і сабраныя яшчэ восенню ягады рабіны, а для звяркоў «ёлкі», абвешаныя морквай, лісткамі капусты, сенам, буракамі і г.д. Каля тысячы злотых сабралі вучні ў рамках акцыі збірання грошай на падарункі для асірацелых дзяцей і да двухсот злотых — на Каралеўскі замак. Актыўна працуе 23-асабовая зухаўская каманда, якой кіруе настаўніца Галіна Буцько. Арганізуюць яны розныя зімовыя гульні, а апошнім часам урачыста адзначалі яны 8 сакавіка. Запрасілі яны сваіх матак у школу, сардэчна іх віншавалі і ўручылі падарункі, а таксама частавалі пірожным і чаем. Гарцэры супольна з мясцовым гуртком ЗМВ арганізавалі ў сябе кулік. Кулік прайшоў паспяхова — і засталіся па ім самыя прыемныя ўспаміны. Амаль усе вучні збіраюць грошы і складаюць іх на ашчадныя кніжкі. Некаторыя з іх, як Янка Лісоўскі, вучань VI класа, і Аркадзь Калішэвіч, вучань VIII класа, сабралі да паўтары тысячы злотых кожны. Грошы вучні маюць з продажу грыбоў, ягад і шышак. Вучнёўская спулдзельня «Первёснэк» мае таксама добрыя дасягненні. Забяспечвае яна школьнікаў неабходнымі школьнымі прыборамі, пірожным, кандытарскімі вырабамі і г.д. Найбольш працуюць у ёй вучні VII класа Віктар Паплаўскі і Андрэй Грэсь (на здымку). Раней члены вучнёўскай спулдзельні гадавалі ў сябе нават кролікаў. Дапамагае школе бацькоўскі камітэт і мясцовы сельскагаспадарчы гурток. Са сваіх фондаў купляюць яны вучням з нагоды Міжнароднага дня дзіцяці або на заканчэнне навучальнага года падарункі.

*Я. Цялушэцкі*
*Фота аўтара*


Віктар Паплаўскі і Андрэй Грэсь найбольш працуюць у вучнёўскай спулдзельні.

## ДЗЕ Ж ТЫ, НАШ ХОР?

Вельмі добра помняцца мне тыя часы, калі на сцэне бельскага кіно выступалі школьныя хоры і іншыя мастацкія калектывы. Найбольш знаным быў першапачаткова хор новага беларускага ліцэя, які пазней перадаў першынство вучнёўскаму хору педагагічнага ліцэя.

Праз нейкі час хор беларускага ліцэя перастаў дзейнічаць. Асноўнай прычынай быў недахоп настаўніка-спецыяліста, які б мог апрацаваць праграму, весці хор. Інакш выглядала справа ў педліцэі. Як кадравая школа меў ён настаўнікаў-спецыялістаў па музыцы, а яго вучні здабывалі веды не толькі ў спеве, але і вучыліся іграць на інструментах.

Дырэкцыю ліцэя не задавальняла вядзенне хору ранейшым спосабам. Сам дырэктар Канашынскі запрапанаваў арганізаваць хор, які б не толькі меў адпаведна высокі мастацкі ўзровень, але які б прадстаўляў пэўную частку беластоцкага рэгіёну. Важна было, каб адшукаць з навакольных вёсак цікавыя фальклорныя песні, танцы і звычаі, апрацаваць іх артыстычна і ўключыць у праграму калектыву. Калектыў песні і танца дзейнічаў, прыгажэў, спяваў песні, якія падабаліся ўсім. Дакладна памятаю, што калі выступалі ў Бельску «Курпе», а потым хор педліцэя, які ўжо тады называўся «Падляссе», чуліся адназначныя сцвярджэнні: наша «Падляссе» на многа лепшае.

«Падляссе» развівалася, атрымала прыгожыя ўборы, музычныя інструменты. Ішлі дыскусіі і сваркі наконт праграмы, шмат трэба было навязвацца з вышэйшымі ўладамі, якія з аднаго боку, не спяшаліся, каб прызнаць права калектыву з педліцэя на званне рэгіянальнага, а з другога боку, як усе ўраднікі на свеце, бараніліся перад стварэннем яшчэ аднаго клопату на сваю галаву. Аднак знаёмствы дырэктара Канашынскага і яго вера ў патрэбу стварэння такога калектыву перамаглі ўлады.

І калі ўсё было гатова і падрыхтавана, каб рушыць «поўнай параў», прыйшла вестка аб ліквідацыі педагагічных ліцэяў у Польшчы. Разам з ліквідацыяй педліцэя ліквідаваўся і калектыў песні і танца «Падляссе», які базіраваўся на вучнях і выхаванках гэтай заслужанай школы.

Цяпер у Бельску часта ўспамінаюць тыя часы, калі быў слаўны «наш хор», якога з прыемнасцю слухалі і глядзелі на канцэртах з нагоды гадавін і свят. Але што ж, гаворыцца тут: няма педліцэя — няма хору.

Аказваецца, што справа працягвання харавых традыцый не выглядала так дрэнна. Калі было ўсім вядома, што педліцэй ліквідуецца, было вырашана традыцыю «Падляссе» перадаць іншай школе. Захады аб перадачы ўбораў і інструментаў, а хіба і настаўнікаў таксама, пачаў весці беларускі ліцэй у Бельску. І вельмі слушна: гэты ліцэй меў традыцыю ў вядзенні хору і, па-другое, найбольш звязаны з рэгіёнам, вёскаю, што мела не абыякавае значэнне. Беларускі ліцэй мае «за плячыма» пачатковую школу, з якой вучні маглі б даўжэйшы час знаходзіцца ў калектыве, што мае таксама сваё значэнне. Размаўляючы з кампетэнтнымі асобамі ў бельскім аддзеле асветы, я даведаўся, што педагагічны савет беларускага ліцэя меў прыняць адпаведную пастанову наконт стварэння пры ліцэі харавога калектыву.

На жаль, ніхто нават у гэтай установе не ведае чаму так не сталася. Пытае адзін аднаго, пыталі нават мяне, але што ж я ім мог сказаць. Адно вядома, што дбалася ў сваім часе пра ўборы, але пра арганізацыю хору ў школе не было каму задбаць.

Адыйшлі некаторыя настаўнікі з былога «Падляся» (А. Лукашук), але ёсць новыя. Справа хору не зусім безнадзейная. Лічу, што амбітная дырэкцыя ліцэя і ўсе, каму гэтыя справы блізкія, вернуцца да традыцыі.

*А. Лабановіч*

## ПРАБЛЕМЫ КРЫНКАЎСКАЙ ГРАМАДЫ

Ужо нікога не трэба пераконваць у тым, што мінеральныя ўгнаенні спрыяюць павелічэнню ўраджайнасці палёў. Аднак яшчэ ёсць многа гаспадароў, якія рассяваюць на сваіх палетках даволі мала гэтага незвычайнага парашка. Недастаткова выкарыстоўваюць мінеральныя ўгнаенні і сяляне грамады Крынкі, што на Сакольшчыне. На пальцах адной рукі можна палічыць тых гаспадароў, якія даюць на свае зямельныя ўгоддзі больш 150 кг НПК на адзін гектар. Толькі Леанід Анісімовіч з Крынак з'яўляецца выключэннем. Ён у мінулым годзе высеяў у сярэднім на адзін гектар 225 кг НПК. Значыць, сялянам ГРН Крынкі шмат чаго яшчэ трэба зрабіць на ўгнойванні сваіх палёў. Дык сельскагаспадарчая служба ў гэтай галіне мае таксама многа работы.

Гаспадарчы план грамады Крынкі прадбачвае на бягучы 1972 год павялічыць выкарыстанне мінеральных угнаенняў больш як на 21 працэнт у параўнанні з мінулым годам. Такім чынам, на адзін гектар ворнай зямлі будзе прыпадаць у гэтым годзе 85 кг НПК у пасобных гаспадароў і 120 кг у тых вёсках, якія ахоплены абавязковым угнаеннем зямлі.

*

У павелічэнні ўраджаяў вялікую ролю адыгрывае сеўны матэрыял. На аднаўленне сеўнага матэрыялу ў грамадзе Крынкі таксама звернута вялікая ўвага. Запланавана, што будзе адноўлена сеўны матэрыял ячменю. 138 цэнтнераў насення гатунку «скшэшовецкі» і «дамазы» атрымаюць сяляне з насеннай цэнтралі ў Саколцы. Восенню высакаякаснымі гатункамі будзе засеяна жыта. 708 ц насення гатунку «даньковске злотэ» і «даньковске сэлекцыйнэ» будзе развезена сялянам. Што датычыць бульбы, дык 2234 цэнтнеры насення гатункаў «флісак», «уран» і «первёснэк» неўзабаве атрымаюць гаспадары з насеннай цэнтралі.

І так, згодна з гаспадарчым планам на 1971 год у грамадзе Крынкі павінен павялічыцца ўраджай збожжа на I цэнтнер з аднаго га (у параўнанні з мінулым годам) і бульбы на 20 цэнтнераў. А гэта значыць, што 1 га дасць 20,4 ц збожжа і бульбы — 200 цэнтнераў.

*

У грамадзе Крынкі налічваецца 832 гаспадаркі. У тым ліку ёсць 170 гаспадарак, на якіх працуюць старыя людзі. Яны з кожным годам усё горш апрацоўваюць сваю зямлю. У будучыні гэтыя 170 гаспадарак не будзе каму апрацоўваць. Пярройдуць яны ў дзяржаўны фонд зямлі. І таму ўжо неабходна думаць аб тым, каб зямля не ляжала аблогам. У сувязі з гэтым будуць павялічвацца заданні сельскагаспадарчых гурткоў, якіх у ГРН Крынкі налічваецца 3 і якія ўжо апрацоўваюць 758 га з дзяржаўнага фонду. І тут неабходна сказаць аб крынкаўскім гуртку. Апрацоўвае ён 435 га зямлі з дзяржаўнага фонду. З кожным годам паляпшаецца яго гаспадарка. За 1971 год крынкаўская МБМ дабілася I мільёна 90 тысяч зл чыстага даходу.

*

У грамадзе Крынкі даволі слаба развіваецца гадоўля быдла. У параўнанні з мінулым годам павялічылася колькасць яго толькі на 0,3% і прыпадае 31,3 штук на 100 га зямельных угоддзяў. Гадоўля быдла звязана з кармавой базай. А ў гэтай галіне ў грамадзе Крынкі ёсць шмат нявыкарыстаных рэзерваў. Перш за ўсё недастаткова, замала сеюцца тут паплёны, вельмі мала сіласуецца зялёнай масы. Значна лепш прадстаўляецца справа з гадоўляй свіней. Колькасць іх павялічылася (у адносінах да 1971 г.) на 4,6% і на 100 га прыпадае 110 штук. Значыць, даволі добра. Лік гэты будзе павялічвацца, таму што надзвычай спрыяльныя ўмовы стварыла дзяржава. Хто раней не гадаваў свіней, цяпер пачынае іх гадаваць, адкормліваць і прадаваць дзяржаве. (мх)



## Кансультацыя юрыста

*Пытанне:* Па просьбе маіх бацькоў старшыня грамадскай рады нарадовай склаў завяшчанне ў прысутнасці двух сведкаў. Бацька ў той час быў хворы і памёр праз тры тыдні. Я хацеў выступіць у суд, каб сцвердзіць набыццё спадчыны згодна з завяшчаннем. Мяне праінфармавалі, што завяшчанне не можа быць складзена адразу дзвюма асобамі і што таму завяшчанне маіх бацькоў няважнае. Ці магу я дамагацца праў да спадчыны згодна з завяшчаннем бацькоў?

*Адказ:* Цывільны кодэкс прадбачыць, што ў адным дакуменце можа быць заключана завяшчанне толькі адной асобы. Таму завяшчанне, складзенае старшынёю грамадскай рады нарадовай у адным дакуменце для вашых бацькоў, з'яўляецца няважным. Аднак закон прадбачыць у выпадку магчымай хуткай смерці, калі ў выніку асаблівых акалічнасцей немагчыма або вельмі цяжка скласці звычайнае завяшчанне, магчымасць завяшчання ў форме вуснай.

Паколькі бацька памёр праз тры тыдні пасля складзенага завяшчання, магчымасць хуткай смерці існавала. Факт няправільнага састаўлення завяшчання старшынёю грамадскай рады суды прызнаюць за асаблівую акалічнасць, якая выклікала немагчымасць састаўлення правільнага завяшчання. Таму суд можа прызнаць завяшчанне бацькі як важнае завяшчанне. Матка, калі жыве, павінна зрабіць іншае завяшчанне.

Пачатак на стар. 1




швейны камбінат. Хочам пайсці далей з развіццём электратэхнічнай прамысловасці. Маем таксама на ўвазе машынную прамысловасць. Але агульнае правіла для ўсяе прамысловасці: не засмечваць натуральнага асяроддзя чалавека.

З гэтай прадпасылкі зыходзіць трэці напрамак: выкарыстанне турыстычных якасцей Беласточчыны. Некаторыя ваколіцы настолькі прыгожыя, што павінны яны быць прызначаны выключна для турыстыкі. Развіццё гэтага напрамку павінна ісці двухступенчатым шляхам: на сёння — добра выкарыстаць існуючую базу, развіваць сетку кемпінгаў і палатачных палёў, павялічыць патрабаванні да гандлю і гастраноміі; у далейшай перспектыве — будаваць базу, якая будзе насіць характар не толькі летні, але і зімовы.

Шмат трэба зрабіць таксама ў галіне асветы. Маю тут на думцы асвету ў шырокім сэнсе: не толькі адукацыю моладзі, але і пастаяннае пашырэнне прафесіянальнага ўзроўню і разумовых гарызонтаў усяго насельніцтва. Урэшце ж без шырокай асветніцкай працы не вырашыць нам і тых гаспадарчых заданняў, якія ставім. У людской свядомасці скрываюцца найбольшыя нашыя рэзервы.

*— Характэрнай рысай Беласточчыны з'яўляецца багацце рэгіянальнай культуры. Якая ваша думка аб рэгіянальным грамадска-культурным руху?*

— Сапраўды, дыферэнцыяцыя культуры рэгіёна вельмі багатая, асабліва ў народным мастацтве: пагранічча некалькіх культур. Народнае мастацтва трэба развіваць з усё большай дбайнасцю. Варта арганізаваць агляды народных калектываў. А ці не добра было б, каб у Беластоку адбывалася агульнапольскае, штогадовае мерапрыемства, напрыклад, фестываль народных творцаў? Трэба таксама падумаць і над развіццём вытворчасці сувеніраў. Усё гэта мае вялікае значэнне і для развіцця турызму.

Прыдаю я таксама вялікае значэнне мастацкім пленерам: белавежскім і аўгустоўскім, супрацоўніцтву мастакоў з гандлем, распаўсюджванню музычнай культуры. Для ўсіх бачу тут месца, у тым ліку і для БГКТ. Калі хочам развівацца, мусім выкарыстаць усе магчымасці. Гэта павінна стаць амбіцыяй усяго грамадства.

Асабіста спадзяюся на актыўнасць грамадства, на інтэграцыю людзей вакол праграмы партыі, якая стварае шырокія магчымасці грамадскай дзейнасці.

*— Абяцаем Вам, таварыш сакратар, што ў гэтай дзейнасці не будзе бракаваць і калектыву «Нівы».*

*Гутарыў Г. Валкавыцкі*

# КАБ УСІМ НАМ ЛЕПШ ЖЫЛОСЯ



Збыслаў Радзішэўскі — адзін з кандыдатаў у паслы. Малады дзеяч Аб'яднанага людовага стронніцтва, член Ваяводскага камітэта гэтай партыі, працуе кіраўніком па справах прадукцыі сельскагаспадарчай спулдзельні прадукцыйнай у вёсцы Тымянка, Сямяціцкага павету.

— Мне цяпер 28 год, — гаворыць Збыслаў Радзішэўскі, — дык я прадстаўнік таго пакалення грамадзян Польскай Народнай Рэспублікі, якое вырасла ўжо пры народнай уладзе, для якога даступная была школа, якое мела шанцы кшталтаваць свой лёс па ўласнаму жаданню. Мяркую, што гэта вялікая рэч.

— Адначасова і вялікая наша сіла.

— Так, несумненна, асабліва цяпер, калі чалавек і яго справы — праблемы першапланавыя. Слухалі вы выступленне таварыша Герка ў Катовіцах? — і, не чакаючы майго адказу, ён узяў са стала газету з адзначанымі алоўкам абзацамі тэксту. — Хачу звярнуць вашу ўвагу вось на гэтыя яго словы, — дадаў і прачытаў: «Краіна наша патрабуе смелай думкі, высокай адказнасці, спелага крытыцызму». Гэтымі прыкметамі могуць адзначацца толькі людзі вопытныя, адукаваныя.

— У пастановах VI з'езду гаворыцца, між іншым, пра тое, што да 1975 года ўраджай у сярэднім павінен быць на ўзроўні 24—25 цэнтнераў з аднаго гектара, што неабходна паляпшаць арганізацыю сельскагаспадарчай вытворчасці, хутчэй разводзіць новыя высакаплённыя разнавіднасці насення, шукаць новых кармавых рэзерваў для жывёліны...

— Супольна з нашым прадукцыйным калектывам я стараюся прымяніць гэтыя ўказанні на практыцы, ажыццяўляць іх, хаця тут, у тымянскай спулдзельні, нялёгка гэта прыходзіцца, зямля ў нас дрэнная, пясочная, пятага і шостага класаў. Аднак у мінулым годзе дабіліся мы ўраджаю на ўзроўні 23—24 цэнтнераў збожжа з аднаго гектара. Значыць, мы ўжо блізка паказчыкаў, прадбачаных на 1975 год. У гэтай ваколіцы ніхто ніколі не чуў пра такі ўраджай. Дык суседзі — аднаасобнікі пытаюць нас: якім чынам? А мы ім гаворым: звычайна, трэба найперш старанна завапнаваць глебу, каб выгнаць з яе шкодную кісласць, трэба падсыпаць столькі мінеральных угнаенняў, каб выпала каля 200 кілаграмаў чыстага рэчыва на адзін гектар, трэба ў час пасеяць высакаякасным зернем — вось і ўсё. Мы таксама нічога іншага не робім і не рабілі.

— Спосаб сапраўды просты, тым больш, што штучных угнаенняў ёсць цяпер удосталь, з вапнай таксама бяды няма, адно толькі: адкуль узяць высакаякаснае насенне?

— Наша спулдзельня падпісала ўмову з насеннай цэнтраляй на вырошчванне насення жыта, аўса, ячменю і бульбы. Так што высакаякаснае насенне разводзім мы ў сябе на месцы. Па меры сваіх магчымасцей адступаем яго і аднаасобнікам. Вось некалькі гаспадароў у мінулым годзе купілі ад нас нямецкі авёс «флемінгвайс». Аказалася, што сабралі яны яго больш, як па 30 цэнтнераў з гектара пасеваў. Падобная справа і з ячменем. Тут гаспадары ведалі толькі «удыч» і «пшэбуй», ад нас развілі яны яры ячмень «дамазы». Ён пры спрыяльных умовах дае па 40 і больш цэнтнераў з аднаго гектара.

Збыслаў Радзішэўскі зноў паказаў мне фрагмент выступлення таварыша Герка, дзе гаворыцца аб неабходнасці комплекснай распрацоўкі харчовых патрэб насельніцтва нашай краіны і аб прыстасаванні да гэтых патрэб развіцця вясковай вытворчасці і прамысловасці.

— Вось наша ідэя! — заявіў кіраўнік прадукцыі калектыўнай гаспадаркі. — Забяспечыць краіну харчовымі прадуктамі, поўнасцю забяспечыць! — дадаў. — Хай кожны стараецца ў сябе, хай дзяржаўныя ўстановы дапамагаюць, хай Сейм пастанаўляе і кантралюе. Вось мы тут, у Тымянцы, стараемся, як можам. Пра збожжа я ўжо гаварыў. Але ж да хлеба трэба і мяса. Дык мы кормім гадавых цялят, каб больш было ялавічыны, вырошчваем у год звыш 50 тысяч курэнят «брайлераў», каб больш было смачнага «белага» мяса, разводзім свіней, амаль поўнасцю механізавалі палявыя работы. А ўсё гэта дзеля таго, каб нам было лепш, бо я ўпэўнены ў тым, што калі нам будзе лепш, дык і ўсім будзе лепш. Толькі добрая, дбайная праца, — як гаварыў таварыш Герэк, — узбагачае нашу краіну.

*М. Нурэцкі*

# ЛОК на Бельшчыне

На Бельшчыне дзейнічае зараз 79 гурткоў Лігі абароны краіны (ЛОК), якія налічваюць 3 829 членаў. Апрача таго, дзейнічаюць тут 3 клубы афіцэраў, клубы матацыклістаў, сувязі, 5 стралецкіх, адна секцыя мадэльшчыкаў. Найактыўнейшымі арганізацыямі ЛОК з'яўляюцца ЛОК у Вышках, Бранску, Орлі, Боцьках і іншых. Толькі на працягу мінулага года ва ўсіх ЛОК-аўскіх мерапрыемствах, як спаборніцтвы па абаронным спорце, масавыя стралецкія спаборніцтвы, спаборніцтвы па матацыклах і г.д., прымала ўдзел больш 3 тысяч асоб. Найлепшыя з іх здабылі 570 залатых, сярэбраных і бронзавых адзнак МОСО. Важна, што ЛОК спалучае сваю дзейнасць супольна з іншымі арганізацыямі, як ЗМВ ці ЛЗС. У мінулым годзе такое супольнае мерапрыемства адбылося ў мясцовасці Мень. Супольныя маладзёжныя спаборніцтвы, розныя конкурсы і гульні прыйшло тады глядзець сотні людзей.

Бельскія члены ЛОК — гэта перш за ўсё актывісты шматлікіх грамадскіх чынаў. Толькі ў 1971 годзе выканалі яны іх на агульную суму 216 820 злотых. Найбольш пры пабудове цэнтра прафесіянальнай падрыхтоўкі і бюро павятовага праўлення ЛОК у Бельску (150 тысяч зл), пры пабудове дарог на адрэзках Шмурлы—Алендры, Бжэзніца—Шмурлы і Алексін — Маркавізна (каля 60 тысяч зл), пры пабудове спартыўных пляцовак, стрэльбішчаў, пры пасадцы дрэўцаў, упрыгожванні школьных панадворкаў і г.д. У бягучым годзе бельскія члены ЛОК намераны працаваць грамадскім чынам пры пабудове будынка ЛОК. Інвестыцыя гэта вельмі ім патрэбная. Бюро ЛОК зараз знаходзіцца на паверсе аднаго драўлянага будынка. Цесна тут.

А вось прозвішчы самых актыўных дзеячоў ЛОК на Бельшчыне: Ежы Себясевіч, Пётр Бусловіч і Аляксандр Міхальчук (члены прэзідыума павятовага праўлення ЛОК), Ігнацы Чмут (старшыня грамадскага праўлення ЛОК у Бранску), Леанід Парфенюк (старшыня праўлення ЛОК пры МРН у Бельску), Аляксандр Бартошук (кіраўнік школы ў Войшках, кіруе школьным гуртком юных мадэльшчыкаў) і іншыя.

(Я. Ц.)

# „Беларуская песня-72"

Вучні VII і VIII класаў пачатковай школы ў Нараўцы, Гайнаўскага павету, добра падрыхтаваліся да конкурсу на беларускую песню. У павятовым аглядзе выступяць: Марыся Смактуновіч і Галена Самусь (сола), Марыся Смактуновіч і Крыся Леўша (дуэт), Марыся Смактуновіч, Міхась Панфілюк і Міхась Бароўскі (трыо) і Бажэна Шкопэк, Валя Калiноўская, Аля і Тамара Бядрыцкія (квартэт). Да конкурсу «Беларуская песня — 72» вучняў падрыхтавалі настаўніцы Вера Міхноўская і Надзя Адамюк. (ЯЦ)




# ПЕРЫЯД XIX СТАГОДДЗЯ

«ЭНЕІДА НАВЫВАРАТ».

Адраджэнне беларускай нацыянальнай літаратуры ў XIX ст. было папярэджана паяўленнем значнай колькасці ананімных твораў. Творы гэтыя маюць вялікае літаратурна-гістарычнае значэнне. Іх форма і змест сведчаць аб тым, што маем тут дачыненне з новай, у сэнсе якасці, з'явай, з новым этапам, з новымі, больш каштоўнымі, чым гэта мы бачылі ў XVIII ст. літаратурнымі талентамі. На жаль, і тут маем дачыненне з поўнай не найлепшай традыцыяй, перанесенай з ранейшых стагоддзяў. Адносіцца гэта да ананімнасці. Як і ў ранейшыя часы, так і ў пачатку XIX ст. некаторыя аўтары, з бліжэй не вядомых прычын, лічылі патрэбным не падаваць да публічнага ведама свайго прозвішча. Адносіцца гэта не толькі да аўтараў дробных твораў, але таксама і да аўтараў двух вялікіх паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Ёсць у гэтай ананімнасці нейкая недарэчнасць. Каб напісаць паэму «Энеіда навыварат» ці «Тарас на Парнасе», спатрэбілася, мабыць, прынамсі некалькі тыдняў, а можа і некалькі месяцаў часу. Няма сумнення, што аўтары гэтых твораў, былі вымушаны цэлымі месяцамі, а можа і гадамі вынашваць замысел паэм, уяўляць постаці герояў, абдумваць форму твора, акрэсліваць яго ідэйны кірунак. Здаецца, што пасля ўсяго гэтага, насычанага цярпеннем і надзеяй, працоўу аўтар абавязкова павінен змясціць пад тэкстам твора сваё прозвішча. Сталася аднак інакш. Зрэшты, невядома, ці не змясціці. Але быць можа, што тыя тэксты паэм, якія праз многа гадоў пасля іх напісання былі апублікаваны, не былі тэкстамі, вышаўшымі з-пад рукі аўтараў. Быць можа, што пад арыгіналамі паэм былі і імёны, і прозвішчы аўтараў. Прайшоўшы аднак праз некалькі рук, пасля многіх перапісак былі згублены прозвішчы аўтараў. Магчыма аднак, што маем дачыненне са з'явай прасцейшай. У XIX ст. трэба было мець вялікую цывільную адвагу, каб заявіць «я — беларус». Такіх інтэлігентаў было не многа. Несумненна, многія думалі па-беларуску, але не многія па-беларуску размаўлялі. Магчыма, што сэрца загадала аўтару напісаць твор па-беларуску, але розум раіў устрымацца з подпісам. Стаім тут перад загадкай. Быць можа, не разгаданай.

Пяройдзем аднак да «Энеіды навыварат», якая адкрывае вароты ў новы перыяд беларускай літаратуры, у XIX стагоддзе. Паэме прысвечана шматлікая навуковая літаратура. Калі б сабраць усе публікацыі, звязаныя з «Энеідай навыварат», было б гэтага многа соцень старонак. Пры тым тэкст паэмы невялічкі. З'яўленне яе аднак мае велізарнае значэнне. Тым і тлумачыцца зацікаўленне ім і з боку чытачоў, і з боку крытыкаў.

Крытыкі розных часоў, розных арыентацый, сярод аўтараў паэмы называюць і Равінскага, і Манькоўскага і Мыслоўскага. Хто з іх быў сапраўдным аўтарам? А можа хтосьці чацвёрты? Даследчыкі ўсё яшчэ шукаюць адказу. Справу ўскладняе і той факт, што існуе некалькі рэдакцый паэмы. Для адной з іх характэрная лексіка, аналагічная з гутаркамі магілёўскімі, для другой — з гутаркамі смаленскімі. Ёсць розніцы і ў тэксце, але нязначныя. Няма аднак сумнення, што аўтарам была адна, дагэтуль не высветленая асоба.

Не выяснены канчаткова і час узнікнення паэмы. Крытыкі, спасылаючыся на адну з фраз паэмы — «як ад Кутузава Банапарт», прыйшлі да згоднага вываду, што твор быў напісаны пасля руска-французскай вайны (1812—1814). У іншым выпадку аўтар не быў бы ў стане гаварыць аб пабегу Напалеона ад Кутузава. Сцвярджэнне верагоднае і пераканаўчае, але не ў ста працэнтах. Магло быць і так, што перапісчык паэмы пад уражаннем падзей, звязаных з уцёкам Напалеона, уставіў у тэкст паэмы, напісанай яшчэ да вайны, модную фразу. Аднак гэта толькі спекуляцыя. Няма ніякіх доказаў, што так было ў сапраўднасці.

«Энеіда навыварат» не была арыгінальным беларускім творам. Радавод яе стары. Змест беларускай паэмы застаецца ў непасрэднай залежнасці ад Энеіды старажытнага рымскага пісьменніка Віргілія. Віргілій паказаў у сваім творы пакутлівае, поўнае прыгод жыццё Энея. Займальны сюжэт паэмы трывожыў на працягу многіх стагоддзяў чытачоў усёй Еўропы. Урэшце надаеў. Пад канец сярэдневяковай эпохі французскі пісьменнік Скарон рашыў высмеяць і герояў Энеіды, і яе ідэі. Як рашыў, так і зрабіў. Стварыў пародыю Энеіды. Глянуў на святасць гумарыстычна. Такі падыход да ідэйных, маральных, мастацкіх ці палітычных канонаў заўсёды знойдзе прыхільнікаў. Калі б так не было, ніколі не разрушылася б ніводна з існуючых ісцін, формул, прынцыпаў, ідэалогій, сістэм, і чалавецтва трывала б у заскарузлых «святых» формулах. Было б гэта аднязначнае са смерцю. Кожны рух павінен нешта забіваць і нешта ўзнімаць да жыцця. Прагрэс будуецца на магілах старых ісцін.

Занадта мы адхіліліся ад асноўнай тэмы. Трэба вярнуцца да «Энеіды». Пасля Скарона, які назваў сваю пародыю Энеіда травэсці (перапрацаваная), пайшла па Еўропе мода на перапрацоўку гэтага

